ПРАВА
ВЕСНІК АБАРОНЧЫ
ТРАВЕНЬ, 2013
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Праваабаронца наконт прысуду ў Гомелі: смяротнае пакаранне не вырашае праблем
СТАР. 3

У дзень знікнення Юрыя Захаранкі ў Гомелі падалі калектыўную скаргу ў суд
СТАР. 4

# Праваабаронцы нагадваюць МЗС пра задачы адносна выканання дзяржорганамі міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь



***17 траўня намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч накіраваў міністру замежных спраў Беларусі Уладзіміру Макею зварот у сувязі з невыкананнем беларускай дзяржавай рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН у справе Алеся Бяляцкага. Разам са зваротам міністру дасланы адкрыты ліст Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў з патрабаваннем выканання дадзенага рашэння.***

У рашэнні, прынятым 31 жніўня 2012 года, Працоўная група прызнала, што пазбаўленне волі кіраўніка ПЦ "Вясна" і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага з'яўляецца адвольным, і падкрэсліла, што "адэкватнымі сродкамі прававой абароны з'яўляецца вызваленне сп. Бяляцкага і наданне яму законнага права на кампенсацыю ў адпаведнасці з артыкулам 9, пунктам 5 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП)".

Аднак беларускі бок адмаўляецца выконваць гэтае рашэнне ўплывовай міжнароднай арганізацыі, заявіўшы замест гэтага, што не бачыць сэнсу ў супрацоўніцтве з Працоўнай групай і абвінаваціўшы яе ў палітычнай заангажаванасці. "Беларусь заўсёды канструктыўна ставілася да ўзаемадзеяння з тэматычнымі працэдурамі Савета [Савета па правах чалавека ААН], прадстаўляла на яго адрас усю запрошваемую інфармацыю. Аднак у такіх умовах з улікам крайняй палітычнай ангажаванасці Працоўнай групы, адсутнасці прафесійнай этыкі ў яе дзейнасці Беларусь не бачыць сэнсу для далейшага ўзаемадзеяння з Працоўнай групай у яе цяперашнім складзе", - заявіла ў сваім выступе афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь падчас 22-й сесіі Савета па правах чалавека ААН, якая праходзіла сёлета ў сакавіку.

Патрабаванне Працоўнай групы аб выпраўленні становішча сп. Бяляцкага і прывядзенні яго ў адпаведнасць з нормамі і прынцыпамі, выкладзенымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і МПГПП беларуская дэлегацыя назвала "умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы дзяржавы": "Разглядаем заключэнне Працоўнай групы па справе Бяляцкага як спробу апраўдаць злачынцу шляхам прылічэння яго да праваабаронцаў, умяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы".

Прымаючы да ўвагі гэтыя заявы, Стэфановіч, услед за Абсерваторыяй па абароне праваабаронцаў, у сваім звароце да міністра замежных спраў нагадвае, што спецыяльныя працэдуры ААН (у тым ліку Працоўная група па адвольных затрыманнях) з'яўляюцца дапаможнымі органамі ААН. Яны былі створаны Саветам па правах чалавека ААН і падсправаздачныя яму. Сябры ПГАЗ абіраюцца Кансультатыўнай групай, якая прызначаецца Саветам па правах чалавека ААН, на падставе ведаў і досведу ў галіне іх мандата, добрасумленнасці, незалежнасці і бесстароннасці. Іх юрыдычныя заключэнні, такія як вышэйзгаданае рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, з'яўляюцца рашэннямі ААН. Рэспубліка Беларусь як дзяржава-сябар ААН мае абавязак супрацоўнічаць з усімі органамі і механізмамі ААН (як гэта прадугледжана артыкулам 56 Статута ААН), а таксама звязана дамовамі, у прыватнасці МПГПП, які Беларусь ратыфікавала ў 1973 г.

Акрамя таго, праваабаронца, спасылаючыся на ч. 5.11. Палажэння аб Міністэрстве замежных спраў, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі ад 31.07.2006 № 978, падкрэслівае, што ў задачы міністэрства ўваходзіць і "кантроль за выкананнем міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь і аказанне садзейнічання ў выкананні міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь".

У сувязі з гэтым Валянцін Стэфановіч просіць міністра замежных спраў забяспечыць кантроль за выкананнем рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН па справе Алеся Бяляцкага, прыняць захады па садзейнічанні выкананню дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь дадзенага рашэння і паведаміць пра прынятыя захады ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

http://spring96.org/

Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў, сумесная праграма Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусветнай арганізацыі супраць Катаванняў (OMCT), звярнулася з адкрытым лістом да міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея з патрабаваннем аб выкананні рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН у справе праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

*Re: Патрабаванне аб выкананні рашэння A/HRC/WGAD/2012/39 Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН у справе праваабаронцы Алеся Бяляцкага.*

былі створаны СПЧ ААН і падсправаздачныя яму. Сябры ПГАЗ абіраюцца Кансультатыўнай групай, якая прызначаецца СПЧ ААН, на падставе ведаў і досведу ў галіне іх мандата, добрасумленнасці, незалежнасці і бесстароннасці. Іх юрыдычныя заключэнні, такія як вышэйзгаданае рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, з'яўляюцца рашэннямі ААН. Рэспубліка Беларусь як дзяржава-сябар ААН мае абавязак супрацоўнічаць з усімі органамі і механізмамі ААН (як гэта прадугледжана артыкулам 56 Статута ААН), а таксама звязана дамовамі, у прыватнасці МПГПП, які Беларусь ратыфікавала ў 1973 г.

Савет па правах чалавека ўсклаў на ПГАЗ паўнамоцтвы што законы, ужытыя для судовага пераследу і затрымання сп. Бяляцкага, супярэчаць міжнародным стандартам правоў чалавека, якія з'яўляюцца абавязковымі для выканання Рэспублікай Беларусь.

У святле ўсіх гэтых фактаў Абсерваторыя з павагай заклікае Вас выконваць вышэйзгаданыя міжнародныя абавязацельствы і, у прыватнасці, выканаць рашэнне A/HRC/WGAD/2012/39 ААН ПГАЗ па справе сп. Алеся Бяляцкага, у прыватнасці, шляхам:

*- вызвалення яго неадкладна і безумоўна, і прадастаўлення яму права на кампенсацыю (пункт 53 Рашэння);*

# Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў патрабуе ад МЗС Беларусі выканання рашэння ААН у справе Алеся Бяляцкага

Паважаны спадар міністр,

На сваёй 64-й сесіі Працоўная група па адвольных затрыманнях Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ПГАЗ ААН) прыняла рашэнне A/HRC/WGAD/2012/39, апублікаванае 23 лістапада 2012 г., у якім прызнала, у прыватнасці, што затрыманне сп. Алеся Бяляцкага, старшыні Праваабарончага Цэнтра "Вясна" і віцэ-прэзідэнта FIDH, было адвольным, паколькі яно супярэчыць артыкулу 20, пункту 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека (УДПЧ) і артыкулу 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП). ПГАЗ падкрэсліла, што адэкватным сродкам выпраўлення парушэння з'яўляецца вызваленне сп. Бяляцкага і забеспячэнне яго права на кампенсацыю ў адпаведнасці з артыкулам 9, пунктам 5 МПГПП.

5 сакавіка 2013 г. падчас 22-й сесіі Савета ААН па правах чалавека (СПЧ), якая адбылася ў Жэневе, дэлегацыя Рэспублікі Беларусь аспрэчыла права ПГАЗ праводзіць расследаванне і прымаць меркаванні адносна затрымання сп. Алеся Бяляцкага і назвала расследаванне і меркаванні ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Беларусі.

Абсерваторыя нагадвае, што Спецыяльныя працэдуры ААН (у тым ліку ПГАЗ) з'яўляюцца дапаможнымі органамі ААН. Яны расследваць меркаваныя выпадкі затрыманняў, якія накладзены адвольна ці іншым чынам супярэчаць адпаведным міжнародным нормам, выкладзеным ва Усеагульнай дэкларацыі або ў адпаведных міжнародна-прававых дамовах, прынятых адпаведнымі дзяржавамі.

ПГАЗ ацэньвае інфармацыю, сабраную у межах працэдуры спаборнасці на празрыстай аснове, і выкарыстоўвае стандарт пераканаўчых доказаў, каб вызначыць, ці з'яўляецца затрыманне адвольным або несумяшчальным з адпаведнымі міжнароднымі стандартамі, або наяўная інфармацыя не з'яўляецца дастатковай, каб зрабіць такія вызначэнні. Метады працы ПГАЗ былі ўхвалены Камісіяй па правах чалавека ААН 15 красавіка 1997 г.

*Будучы незалежным механізмам, яна мае права паводле свайго меркавання дзейнічаць адносна любой інфармацыі або ў асобным выпадку, які яна палічыць адпаведным. Абсерваторыя падкрэслівае, што ПГАЗ дзейнічала ў поўнай адпаведнасці з яе прэрагатывамі. У сувязі з гэтым нагадаем, што ПГАЗ ацэньвае ўсю інфармацыю ў святле міжнародна прызнаных стандартаў у галіне правоў чалавека, якія адносяцца да іх мандату, і міжнародных канвенцый, удзельніцай якіх з'яўляецца дзяржава.*

У гэтым выпадку ПГАЗ пастанавіла,

*- выканання негатыўнага абавязацельства Беларусі не ўмешвацца ў заснаванне асацыяцый або іх дзейнасць, але таксама пазітыўнага абавязацельства дзяржавы гарантаваць і забяспечыць такія захады, як спрыянне задачам асацыяцый за кошт дзяржаўнага фінансавання або прадастаўленне падатковых льгот для фінансавых сродкаў, атрыманых з-за межаў краіны (пункт 48 Рашэння).*

Нарэшце, Абсерваторыя з задавальненнем прымае да ведама прыхільнасць Рэспублікі Беларусь да супрацоўніцтва ў канструктыўным ключы з Саветам па правах чалавека і яго тэматычнымі Спецыяльнымі працэдурамі і настойліва заклікае яе накіраваць пастаяннае запрашэнне ўсім Спецыяльным працэдурам ААН і запрасіць Спецыяльнага дакладчыка ААН па становішчы праваабаронцаў у якасці праявы гэтага важкага абавязацельства.

Мы спадзяемся, што Вы возьмеце ўсе гэтыя заўвагі пад увагу. Застаемся ў Вашым распараджэнні для далейшага абмеркавання,

*З павагай,*
*Суэр Белхасэн,*
*Прэзідэнт FIDH*
*Джэральд Стэйброк,*
*Генеральны сакратар OMCT*

**http://spring96.org/**

# Намеснік Генадзя Фядыніча паскардзіўся ў Камітэт па правах чалавека

*Прадстаўнік незалежнага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) па Гомельскай вобласці Віктар Казлоў падаў індывідуальную скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Ён даводзіць да міжнароднай супольнасці факт забароны мясцовымі чыноўнікамі масавага мерапрыемства, якое планавалася правесці ў абласным цэнтры 7 кастрычніка таго года з нагоды Сусветнага дню дзеяння прафсаюзаў за годную працу.*

**Віктар Казлоў:**

- Праходзячы ўсе ўнутраныя сродкі прававой абароны я ў скаргах апеляваў да міжнародных абавязкаў, якія ўзяла на сябе наша краіна, а менавіта забяспечваць кожнаму грамадзяніну права на свабаду мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання. На жаль, судовая сістэма ў Беларусі пакуль працуе толькі з нацыянальным заканадаўствам, ігнаруючы міжнародныя абавязкі краіны.



- Напрыклад, разглядаючы маю скаргу намеснік старшыні Вярхоўнага Суду Андрэй Забара следам за мною паспрабаваў апеляваць да Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх ды палітычных правах. Але яго ведаў хапіла толькі на тое, каб перапісаць змест адпаведнага артыкула, які не забараняе ў адпаведных выпадках накладваць абмежаванні на свабоду мірных сходаў. На большае яго не хапіла, - падвёў рысу кіраўнік Гомельскай суполкі прафсаюзу РЭП.

Намеснік Генадзя Федыніча просіць Камітэт ААН прызнаць парушэнне Рэспублікай Беларусь яго правоў на свабоду мірных сходаў і як следства свабоду выказвання свайго меркавання. У скарзе ўтрымліваецца просьба рэкамендаваць ураду Беларусі прывесці нормы нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі дамовамі па правах чалавека.

http://gomelspring.org/

## Праваабаронца пра прысуд у Гомелі:
# «Смяротнае пакаранне не вырашае праблем»



7 мая Гомельскі абласны суд абвясціў прысуд па рэзананснай справе аб жорсткім забойстве студэнта-першакурсніка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту транспарту. Дзяржаўнае абвінавачванне патрабавала для 19-гадовага ўдзельніка злачынства пажыццёвага пазбаўлення волі, для яго непаўналетняга саўдзельніка – 15 гадоў зняволення (гэта максімальны тэрмін па заканадаўству, таму што на момант забойства яму было 17 гадоў). Суддзя Ірына Ўладыка вынесла прысуд: 25 гадоў для 19-гадовага абвінавачваемага, і 15 гадоў – для яго саўдзельніка, якому два дні таму, 5 мая, споўнілася 18 гадоў. Прысуд пакуль не ўступіў у законную сілу. Бацькі забітага студэнта маюць намер яго абскардзіць, і патрабаваць пажыццёвае пакаранне для старэйшага абвінавачваемага.

**«Галоўнае – што суд прайшоў у адпаведнасці з заканадаўствам. Злачынства здзейснена вельмі жахлівае, але і пакаранне сур'ёзнае. Мы паслядоўна выступаем супраць смяротнага пакарання, і лічым, што яно праблем не вырашае, і з цягам часу ў Беларусі будзе мараторый на смяротнае пакаранне. Вельмі спачуваю бацькам забітага маладога чалавека. Я прысутнічаў на судовых паседжаннях, і заўважыў, што абвінавачваемыя не пакутуюць ад згрызотаў сумлення, і наўрад ці асэнсавалі, што яны здзейснілі», - пракаментаваў прысуд праваабаронца БХК Віктар Адзіночанка.**

Нагадаем, забойства 19-гадовага жыхара Гомеля было ўчынена 20 ліпеня 2012 года, падазроных затрымалі праз некалькі дзён. Гэты былі 19-гадовы навучэнец медыцынскага каледжа і 17-гадовы навучэнец каледжа машынабудавання. Маладыя людзі ўчынілі забойства з асаблівай жорсткасцю групай асоб, разбой, крадзеж асабістых дакументаў, наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам (яны пасля здзяйснення жорсткага забойства адкрылі ўсе канфоркі газавай пліты і духоўкі).

Загінулы быў адзіным сынам выкладчыцы гімназіі, з залатым медалём скончыў навучальную ўстанову, быў адным з лепшых студэнтаў.

http://gomelspring.org/

# У дзень знікнення Юрыя Захаранкі ў Гомелі

## пададзеная калектыўная скарга ў суд

7 траўня ў суд Цэнтральнага раёна Гомеля пададзена калектыўная скарга на дзеянні (бяздзейнасць) гарадскіх чыноўнікаў, забараніўшых у абласным цэнтры дваццаць пікетаў, якія заявілі актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) ў чарговую гадавіну знікнення свайго земляка, экс-міністра МУС, генерала Юрыя Захаранкі.

Актывісты АГП заяўляюць, што ў паўмільённым горадзе мясцовыя чыноўнікі фактычна знішчылі саму сутнасць права на свабоду правядзення мірных сходаў і як следства на свабоду выказвання меркавання, забараняючы на працягу апошніх дзесяці гадоў любое масавае мерапрыемства, якія плануецца правесці без кантролю ўладаў.

Старшыня абласной арганізацыі АГП Зінаіда Шуміліна: "Мірныя сходы грамадзян у любой краіне з'яўляюцца адной з асноў дзеючай дэмакратыі, а абарона свабоды сходаў неабходная для стварэння талерантнага грамадства, ў якім могуць мірна суіснаваць групы з рознымі перакананнямі, нормамі паводзін або прынцыпамі. Таму забарону гарвыканкама лічым недапушчальным абмежаваннем нашых правоў на свабоду выказвання свайго меркавання і правядзення масавых мерапрыемстваў паводле артыкулаў 23, 33 і 35 Канстытуцыі, а таксама артыкулаў 19 і 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах".

Актывіст АГП Эдуард Нелюбовіч: "Калі б мы сталі выконваць рашэнне уладаў аб правядзенні сходаў у адзіным месцы, якое вызначана сталым месцам іх правядзення ў Гомелі, правядзенне планаваных сходаў губляла б ўсялякі сэнс, паколькі асноўнымі іх мэтамі з'яўлялася зварот ўвагі грамадскасці на праблему адсутнасці вынікаў у расследаванні крымінальных спраў па фактах зьнікненьня ў Беларусі вядомых палітыкаў, што зрабіць у адным адзіным месцы ў горадзе практычна немагчыма".

Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіль Палякоў паведаміў, што, атрымаўшы адмову на пікеты, актывісты разаслалі ў раённыя аддзелы міліцыі адмысловыя ўлёткі, каб такім чынам нагадаць пра зьнікненьне 7 траўня 1999 году сябра сваёй партыі — генэрала Захаранкі.

http://gomelspring.org/




Маці дагэтуль чакае сына...